*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ **№ 2 (162)** ◈ 12 студзеня 1994 г. ◈ Кошт — 20 рублёў.

## ПОСТУП ТЫДНЯ

Выканаўчы камітэт Цэнтральнай Рады БСДГ распаўсюдзіў заяву наконт выступлення на сесіі Вярхоўнага Савета часовай камісіі па вывучэнню дзейнасці камерцыйных структур, у якой, у прыватнасці, гаворыцца: «Даклад А. Лукашэнкі не ўтрымлівае нічога прынцыпова новага. Скарыстаныя ў ім факты ўжо вядомыя ўважлівым чытачам газет. Садаклад С. Антончыка з'яўляецца больш прынцыповым, бо выкрывае асноўныя прычыны карупцыі: кансервацыя старой палітычнай сістэмы, адсутнасць эканамічных рэформаў і сітуацыя прававога бязладдзя, што ставрае спрыяльныя ўмовы для абагачэння кіруючай наменклатуры. Выканкам ЦР БСДГ сцвярджае: трохдзённае абмеркаванне пытання аб дзейнасці камерцыйных структур паказала, што карупцыяй ахоплены ўсе эшалоны ўлады...» Выканкам ЦР БСДГ заклікае ўсіх грамадзян Беларусі патрабаваць датэрміновых выбараў у Вярхоўны Савет вясной 1994 года і падтрымаць рух забастовачных камітэтаў, якія змагаюцца за сфарміраванне кааліцыйнага ўрада і датэрміновыя выбары.



СТАРШЫНЯ САВЕТА МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСІ В. КЕБІЧ НАВЕДАЎ МАСКВУ, дзе меў сустрэчы з першым віцэ-прем'ерам Расіі Алегам Саскаўцом. Затым у кабінеце Віктара Чарнамырдзіна адбылася гутарка паміж прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным і кіраўнікамі ўрадаў Расіі і Беларусі. Прэс-служба прэм'ер-міністра РФ паведаміла, што на перамовах Б. Ельцына, В. Чарнамырдзіна і В. Кебіча разгледжана пытанне аб маючым адбыцца аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі, а таксама гандлёва-эканамічных адносінах. Дасягнута дамова падпісаць пакет дакументаў, якія рэгулююць гэты працэс, у Менску на працягу студзеня. Відаць, яшчэ даволі будзе шмат і аднаго жадання стварыць «рублёвую зону» — вельмі мала.



АДБЫЛАСЯ справаздачна-выбарчая канферэнцыя БХДЗ з удзелам дэлегатаў з абласцей краіны. Старшынёй БХДЗ стаў вядомы беларускі філосаф прафесар Мікола Крукоўскі.

## СА СВЯТАМІ!

Вітаю чытачоў і супрацоўнікаў газеты «Наша слова» з Калядамі і Навагоднімі святамі і зычу ўсім Вам добрага здароўя і поспехаў на ніве Адраджэння.

Жыве Беларусь!

Са шчырай павагай да Вас
Міхал РАДЗЕЦКІ,
Аўстралія.

## НАВОШТА МНЕ ЖЫЦЦЁ БЕЗ МОВЫ

Віктар ВАБІШЧЭВІЧ

*Навошта мне жыццё без мовы —*
*Без мовы я — не чалавек.*
*Прысуд гісторыі суровы:*
*Павінен скончыцца мой век.*

*Скажыце, дзе сыны яцвягаў?*
*А куршы дзе, дзе іх сыны?*
*Прапалі, зніклі за абсягам,*
*Мо дзе жывуць... А хто яны?*

*Знямеюць нашы ручаіны,*
*Знямее наш спрадвечны род,*
*І заспрачаюцца краіны—*
*Маўляў, ці быў такі народ?*

*І не прыпомняць беларусаў*
*І не згадаюць Слуцак, Менск...*
*А недзе ж выспела спакуса*
*Хутчэй наблізіць гэты дзень.*

*Не трэба мне чужая мова,*
*Але і роднай не аддам.*
*Не можа быць жыцця без слова,*
*Што продкі падарылі нам.*

*Беларускі час у фотааб'ектыве*

## Едзем у зону ...рублёвую



У наш складаны час «камерсантамі» робяцца дактары і настаўнікі, работнікі культуры і студэнты, пенсіянеры і хатнія гаспадыні. Галоўны накірунак камерцыйных вандровак зараз не Польшча, а Масква, Санкт-Пецярбург, Смаленск. Таму на Віцебскім вакзале гандлёвы люд штурмам бярэ кожны цягнік у Расію (на здымку). Вязуць пераважна харчы — каўбасу і іншыя мясныя вырабы, вяршкі, масла, смятану. У Расіі гэтыя тавары прадаюцца па намінальнай вартасці, але за расійскія рублі, курс якіх вышэй за адпаведны «зайцоў». Да слова, у Віцебску «зайцоў» па высокім курсе без праблем можна памяняць на расійскія рублі.

Безумоўна, «камерсанты» маюць добры навар ад сваіх аперацый. А і без таго небагатыя паліцы беларускіх крам у выніку робяцца яшчэ бяднейшымі.



# РАЗ'ЯДНАНАЯ МАЛДОВА: МЯЖА ІДЗЕ ПРАЗ БЕЛАРУСЬ

## (Беларускія маці і жонкі пакуль не плакалі, але, аказваецца, магло здарыцца і так)

Цікава, каму гэта спатрэбілася агітаваць расійскіх студэнтаў улетку мінулага года ехаць у Прыднястроўе, у зону баёў. Што яны там рабілі? — падумаў я і раптам пачуў: «У эфіры «Беларуская маладзёжная». Усё тлумачылася проста: журналістка папулярнай радыёпраграмы, парушаючы традыцыі «БМ», звярталася да слухачоў па-расійску, бо вяла гутарку з кіраўнікамі двух малдаўскіх калгасаў. Але прыналежнасць іх да самаабвешчанай Прыднястроўскай Малдаўскай рэспублікі надавала гутарцы характар зводкі з месца бою. Гэта пацвердзілі словы старшыні калгаса «Дружба народаў» Васіля Бабоя: «...Мы на следующий год планируем 200—250 человек. В этом году у нас работало 220... Сколько приехало, столько и уехало».

Каб дакладна зразумець, аб чым ішла размова, трэба ўспомніць справы апошніх гадоў у самой Малдове, чаго, на жаль, не зрабілі журналісты «Беларускай маладзёжнай». Гісторыя падзей такая: у канцы 80-х гадоў у Малдове — тады яшчэ Малдаўскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы — узмацніўся дэмакратычны рух, сярод мэт якога было атрыманне рэспублікай дзяржаўнай незалежнасці, наданне мове малдаўскага народа статуса дзяржаўнай, адраджэнне нацыянальнай культуры. Рух, актыўнасць і ўплыў якога на грамадства раслі, у 1991 годзе афіцыйна аформіўся пад назвай «Народны фронт Малдовы». А яшчэ раней, у 1990 годзе, на ўзор і падабенства аналагічных арганізацый у краінах Балтыі, у рэспубліцы быў утвораны Інтэрфронт.

«Я только напомню и вам и нашим слушателям о том, что мы с вами не однажды встречались в прошлом году и в начале лета. Помните, Василий Андреевич, как мы их агитировали ехать туда — в Молдову, в Приднестровье? И ситуация тогда была сложной, почти военной. Вы давали свои обещания. Спасибо вам за то, что эти обещания выполнены, за то, что никто из наших студентов не понес никакого ущерба, не пострадал, за то, что не плакали матери — не дай Бог, могло случиться (!) и такое. Я говорю вам искреннее спасибо от слушателей, от родителей...» — прагучала з прыёмніка.

Першыя крокі да пачатку грамадзянскай вайны былі зроблены ўжо тады: радыкалы з Народнага фронта патрабавалі, сярод іншага, уз'яднання Малдовы з Румыніяй, кіраўніцтва ж Інтэрфронта адмаўляла нават прынцып дзяржаўнасці нацыянальнай мовы. Супрацьстаянне ўзмацнялася. Пад уплывам Інтэрфронта сепаратысцкі рух узнік у Прыднястроўі — прамысловым рэгіёне з вялікай колькасцю ваенных прадпрыемстваў і адначасова — месцы размяшчэння 14-й арміі Расіі. Мясцовыя ўлады, падтрыманыя рускамоўным насельніцтвам, доля якога складала 60 працэнтаў, і вайскоўцамі, адкрыта адмаўляліся падпарадкоўвацца загадам з Кішынёва. Нежаданне кіраўніцтва абодвух бакоў саступаць і спробы ўжывання сілы Кішынёвам, каб авалодаць сітуацыяй у рэгіёне, далі пачатак сапраўднай грамадзянскай вайне, якая цягнулася з 1991 года да жніўня 1992 года. У час найбольшага напружання, на мяжы 1991—1992 гадоў, у Прыднястроўі быў праведзены рэферэндум, вынікам якога стала абвяшчэнне Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспублікі. ПМР у якасці дзяржаўнага ўтварэння не прызнала ніводная з краін свету, нават Расія.

Беларускія студэнты працавалі ў Прыднястроўі ў той час, калі мясцовыя ўлады вялі вайну супраць прыязнай Беларусі Малдовы? Каб пацвердзіць ці абвергнуць гэта, я звярнуўся ў арганізацыю, якая накіравала іх туды — у Службу занятасці моладзі і студэнтаў. Маім суразмоўцам стаў Міхаіл

*Працяг на 2-й стар.*

*НАРОД*

**У мінулым нумары «Нашага слова» быў апублікаваны артыкул І. Платонавай і Ул. Асінаўскага «Паток пагражае ператварыцца ў патоп». Працягваем гэту найважнейшую для выжывання нацыі тэму.**

**Інтэрв'ю дае намеснік дырэктара Дзяржаўнай міграцыйнай службы Рэспублікі Беларусь Уладзімір Якаўлевіч Белазор.**

# МІГРАЦЫЯ: У БЕЛАРУСІ ДА ЯЕ ПАДРЫХТАВАЛАСЯ ТОЛЬКІ МАФІЯ?



*— Уладзімір Якаўлевіч, праблема бежанцаў і мігрантаў адна з самых набалелых у грамадстве. Хацелася б пачуць адказ на наступныя пытанні: якая сённяшняя сітуацыя па гэтай праблеме ў Рэспубліцы Беларусь? Што робіцца для вяртання на радзіму этнічных беларусаў з усіх «гарачых» кропак былога Саюза? Якія задачы і функцыі Дзяржаўнай міграцыйнай службы?*

— Пачну з апошняга пытання. Указ аб стварэнні Дзяржаўнай міграцыйнай службы пры Дзяржаўным камітэце па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва быў прыняты Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь 22 ліпеня 1993 г. Нашы функцыі і абавязкі агавораны ў пастанове Савета Міністраў ад 13 жніўня 1993 г. «Аб зацвярджэнні палажэння аб Дзяржаўнай міграцыйнай службе». Служба мае чатыры аддзелы: знешняй працоўнай міграцыі, прававой абароны мігрантаў і бежанцаў, зводнааналітычны і аддзел па рабоце з бежанцамі і замежнымі рабочымі. У склад Дзяржаўнай міграцыйнай службы ўваходзяць абласныя і Менская гарадская служба, іх упаўнаважаныя на месцах, а таксама адказныя за рэалізацыю міграцыйнай палітыкі работнікі выканкамаў мясцовых Саветаў у гарадах і раёнах.

Служба мае два аспекты дзейнасці — тэарэтычны і практычны. У практычным плане мы займаемся пытаннямі, звязанымі з прыёмам і размяшчэннем бежанцаў і вымушаных мігрантаў на тэрыторыі Беларусі. Галоўны наш клопат — забяспечыць іх жыллём, працай і харчаваннем. Пытанні вырашаюцца пры дапамозе органаў дзяржаўнай улады і грамадскіх арганізацый у цэнтры і на месцах. Дзяржаўная міграцыйная служба каардынуе дзейнасць міністэрстваў і ведамстваў па аказанні дапамогі бежанцам і вымушаным перасяленцам.

У нас няма дзяржаўнага фонду дапамогі гэтай катэгорыі насельніцтва, які павінен існаваць за кошт рэспубліканскага бюджэту, а сродкі, вельмі мізэрныя, паступаюць на гэтыя мэты з мясцовых бюджэтаў Дзяржкампрацы. Для паляпшэння становішча бежанцаў і перасяленцаў мы спрабуем стварыць фонд дапамогі, які павінен існаваць на ахвяраванні насельніцтва Беларусі, пераважна бізнесменаў.

*— Вы казалі пра тэорыю...*

— Тэарэтычны аспект нашай дзейнасці такі: мы займаемся распрацоўкай праектаў законаў, пастаноў, міждзяржаўных пагадненняў, якія б рэгулявалі міграцыйныя працэсы ў рэспубліцы і за яе межамі, рэалізоўвалі б дзяржаўную палітыку ў гэтай галіне нашага жыцця. Паколькі існуе праблема нелегальных мігрантаў, асоб, якія незаконна пражываюць на тэрыторыі рэспублікі, мы рыхтуем прапановы па іх дэпартацыі і папярэджанні выпадкаў некантралюемай міграцыі. Такім чынам, мы працуем над стварэннем адпаведнай нарматыўна-прававой базы па рэгуляванні міграцыйных працэсаў. Іншая справа, што гэтыя дакументы ў сваёй большасці накіраваны ў Савет Міністраў, але не зацверджаны Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь. Таму нашы дзеянні не заўсёды грунтуюцца на юрыдычнай аснове. Так, да гэтага часу не прыняты асноўны закон па бежанцах і вымушаных перасяленцах. Ён тройчы дапрацоўваўся, але на разгляд сесіі Вярхоўнага Савета не вынесены. А гэты закон непасрэдна тычыцца лёсу этнічных беларусаў. Вяртанне на Бацькаўшчыну этнічнага беларуса ўзводзіцца ў ім у ранг статуса вымушанага перасяленца.

*— Прасвятліце, калі ласка, розніцу паміж бежанцам і вымушаным перасяленцам.*

— *Бежанец* — не грамадзянін Рэспублікі Беларусь. Гэта чалавек, якому пагражае небяспека і якога не бароніць свая дзяржава, і ён шукае абароны ў іншай дзяржавы. Дыскрымінацыя і ганенні могуць адбывацца з прычыны расавай, сацыяльнай і нацыянальнай прыналежнасці асобы, яго веры, мовы і палітычных перакананняў. Калі выяўляецца, што чалавек гэты сапраўды бежанец, а не авантурыст, які перабраўся на нашу тэрыторыю з намерам займацца «прыхватызацыяй», мы яго прымаем незалежна ад краіны былога пражывання і нацыянальнасці перш за ўсё з меркаванняў гуманізму. Напрыклад, ён уцёк ад куль. Затым з палітычных, этнічных і рэлігійных меркаванняў. Са жніўня 1993 г. ў нас дзейнічае закон «Аб прававым становішчы замежных грамадзян і асоб без грамадзянства», які рэгламентуе знаходжанне замежных грамадзян на тэрыторыі рэспублікі, зыходзячы з дазвольных і забаронных мер. Я гэты закон называю неданошаным, таму што ён не ўлічыў вопыт іншых дзяржаў і фактычна амаль не выконваецца.

*Вымушаным перасяленцам* можа быць этнічны беларус або чалавек, які быў грамадзянінам былога СССР, жыў у Беларусі і цяпер пакінуў месца свайго жыхарства на тэрыторыі другой дзяржавы па прычыне, што існуе пагроза яго жыццю, або ён знаходзіцца пад прэсам палітычнай і юрыдычнай дыскрымінацыі. Мы ўвялі тэрмін «вымушаны перасяленец», каб бараніць менавіта этнічных беларусаў і палегчыць іх вяртанне на радзіму і адаптацыю. Беларус, які атрымае статус перасяленца, мае больш льготнае становішча на пачатку свайго пражывання на Беларусі у параўнанні з замежнымі грамадзянамі іншых нацыянальнасцей. Напрыклад, на працягу першых трох месяцаў ён будзе мець матэрыяльную дапамогу, харчаванне, часовае жыллё, бо беларусы, на жаль, прыязджаюць сюды голымі. Не так, як некаторыя грузіны, армяне, азербайджанцы і іншыя, што хочуць стаць бежанцамі і прыязджаюць сюды з вялікімі грашыма, і ім, чамусьці, хуценька, без рэгістрацыі і дазволу выдзяляецца жыллё.

*— А хто дае ім жыллё?*

— Мясцовыя ўлады.

*— У такім разе любы авантурыст — прыхватызатар, агент мафіі можа выдаць сябе за ахвяру вайны або палітычных рэпрэсій і купіць у чыноўніка і рэгістрацыю, і прапіску, і кватэру. Нездарма ж Вы казалі, што па статыстыцы ў Рэспубліку Беларусь прыбывае столькі ж грамадзян іншых нацыянальнасцей, колькі і беларусаў.*

— Так, бяда і ў гэтым. Вось калі б дзейнічаў закон, праект якога ляжыць у Савеце Міністраў, справа з мігрантамі выглядала б куды лепш. Праект закона прадугледжвае міграцыйны кантроль, але разам з МУС, пашпартным сталом і пагранічнікамі.

*— Як надаецца статус бежанца і перасяленца?*

— Працэдура па наданні мігранту статуса бежанца або вымушанага перасяленца прадугледжвае, што да вырашэння пытання «перабежчыкі» на нашу тэрыторыю маюць права жыць у месцах часовага пасялення, атрымліваць бясплатнае харчаванне і карыстацца матэрыяльнай дапамогай дзяржавы. Калі пытанне вырашаецца дадатна, міграцыйная служба будзе дапамагаць мігранту ў атрыманні прапіскі, працы, кватэры або зямельнага ўчастка. Аднак паколькі закон не прыняты, то статус бежанца і вымушанага перасяленца мігранты ў нас не атрымліваюць, хоць з-за гэтага яны не перастаюць быць тым, хто яны ёсць. А гэта азначае, што істотнай падтрымкі ад нашай дзяржавы яны не маюць, іх правы не ахоўваюць ні нашы, ні міжнародныя законы, напрыклад Канвенцыя 1951 г., якая Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь не ратыфікавана.

*— І як доўга ўся працэдура можа цягнуцца?*

— Лёс бежанца або вымушанага мігранта згодна з праектам закона павінен вырашацца на працягу трох месяцаў. Або ён атрымлівае статус бежанца і вымушанага перасяленца, а разам з ім усе правы і абавязкі грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, або ён дэпартуецца з тэрыторыі рэспублікі. Аднак, паколькі закон не прыняты, мы не можам эфектыўна змагацца з нелегальнай міграцыяй і ажыццяўляць яе прымусовую дэпартацыю. Нашы прапановы не рэалізуюцца і застаюцца толькі на паперы.

*— Вы сказалі, што закон «Аб прававым становішчы замежных грамадзян і асоб без грамадзянства» рэгламентуе пражыванне замежных грамадзян у нашай рэспубліцы. А як дзейнічае ў гэтым плане пагадненне, якое тычыцца грамадзян СНД? У чым сутнасць гэтага заканадаўчага акта?*

— Пагадненне «Аб бесперашкодным перамяшчэнні грамадзян СНД на тэрыторыі дзяржаў СНД» было прынята ў 1992 г. у сувязі з утварэннем Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Аднак у ім тэрмін бязвізавага пражывання на тэрыторыі Рэспублікі замежных грамадзян не рэгламентуецца.

*— Гэта жахліва.*

— Вядома, жахліва, бо вядзе да напружання палітычнай і крымінагеннай сітуацыі ў рэспубліцы. Вялікі працэнт злачыннасці прыпадае акурат на грамадзян СНД. Гэта тыя, хто хацеў бы стаць у нас бежанцам.

*— З якой мэтай прымалася пагадненне?*

— Мабыць, каб пацвердзіць факт існавання СНД. Аднак гэта пагадненне не здымае адказнасці з самастойнай суверэннай дзяржавы за фарміраванне сваёй міграцыйнай палітыкі. У ім не сказана, што грамадзяне СНД могуць гадамі пражываць на нашай тэрыторыі. Гэта мы павінны вызначыць тэрмін, на працягу якога ім дазваляецца знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі. Да гэтага пагаднення наша дзяржава павінна падыходзіць з пазіцыі захавання свайго суверэнітэту і абароны сваіх грамадзян.

*— Якая ж напрошваецца выснова?*

— А выснова такая. Дадзенае пагадненне патрабуе ўдакладнення. Гэта важна ў такой жа меры, як і прыняцце закона «Аб бежанцах і вымушаных перасяленцах».

*— Як Вы працуеце ва ўмовах прававога вакууму?*

— Сказаць, што мы нічога не робім, нельга. Паўторна да нас людзі не звяртаюцца. А з тых, што звярталіся непасрэдна да нас,— гэта чалавек 50 — мы ўладкавалі ў інтэрнаты. Гэта акрамя тых, хто звяртаўся ў Віцебскую і Гомельскую службы міграцыі, а там праблема яшчэ і такая. Страціўшы надзею на дапамогу Беларусі, этнічныя беларусы-мігранты засяляюць раёны, забруджаныя радыяцыяй. У Гомельскай вобласці іх налічваецца 1200 чалавек, калі не болей. Зараз паўстае пытанне, як іх адтуль вывезці, калі набяруць небяспечную дозу радыяцыі. Пакуль не працуе дзяржаўны фонд дапамогі гэтым людзям, усе нашы спадзяванні на дабрачынны фонд, які ствараем самі.

*— З якімі дзяржаўнымі службамі вы працуеце ў кантакце?*

— Працуем на асабістым кантакце з кіраўнікамі выканаўчых органаў улады на месцах, скарыстоўваем і «тэлефоннае права». У прынцыпе, людзей мы размяшчаем, забяспечваем талонамі. Аднак хвалюе пытанне: «Што рабіць з імі далей?»

*— Ну, добра. Значыць, бежанец можа атрымаць не толькі талоны, але і грамадзянства?*

— Праект закона прадугледжвае, што пытанне грамадзянства вырашаецца наступным чынам: мігрант падае заяву ў органы Міністэрства ўнутраных спраў, і калі ён этнічны беларус, або раней пражываў на тэрыторыі Беларусі, а пазней выехаў, то на працягу месяца атрымлівае грамадзянства.

Ведаючы, што паток этнічных беларусаў да нас будзе нарастаць, я мяркую, што, акрамя закона «Аб бежанцах і вымушаных перасяленцах», нам яшчэ спатрэбіцца шмат падзаконных актаў. Неабходна спецыяльная праграма па вяртанні этнічных беларусаў. Не масавага іх вяртання, бо гэта парушыла б унутраную раўнавагу грамадства, усё яго жыццё, а толькі тых, хто сапраўды не можа больш заставацца на чужой зямлі. Гэта праграма павінна прадугледжваць матэрыяльныя і фінансавыя рэсурсы для іх уладкавання.

*— Як міграцыйная служба рэгулюе сёння патокі мігрантаў?*

— Мы іх накіроўваем у міграцыйныя аддзелы па абласцях. Там яны пішуць заявы, указваюць раён ранейшага месцажыхарства, мэту і прычыну пераезду ў Беларусь, неабходныя віды дапамогі і г.д. Іх рэгіструюць, затым удакладняецца, наколькі абгрунтаваныя іх заявы, і далей міграцыйная служба дзейнічае ў адпаведнасці з сітуацыяй. Намі распрацавана «Часовае палажэнне аб рабоце з бежанцамі», якім мы кіруемся на практыцы. Аднак, паколькі законы не прымаюцца, то прызнаць, што мы кантралюем і рэгулюем міграцыйны працэс у поўнай меры, не даводзіцца. На гэтай жа падставе можна сцвярджаць, што не ўсё робіцца для этнічных беларусаў і былых грамадзян Беларусі па іх вяртанні з «гарачых» кропак былога Саюза.

*— Вы лічыце, пік міграцыі на тэрыторыі былога СССР яшчэ не пяройдзены? Вашы прагнозы на гэты працэс.*

— Паколькі міжнацыянальныя, этнічныя і ваенныя канфлікты працягваюцца ў былым Савецкім Саюзе, то пік міграцыі яшчэ ў нас наперадзе. Ён ператвараецца ў міжнародную, міждзяржаўную міграцыю, да якой мы не падрыхтаваны. Сутыкненні карэннай нацыі з нацыянальнымі меншасцямі ў суверэнных мананацыянальных дзяржавах адбываецца паўсюдна. У той жа час амаль 70 млн. чалавек былога СССР жыве па-за межамі сваіх этнічных тэрыторый. Другі фактар, які ўплывае на міграцыйныя працэсы, гэта абвяшчэнне мовы карэннай нацыі дзяржаўнай. Большасць нацыянальных меншасцей да гэтага не гатова. Дзесяткі гадоў, напрыклад, рускамоўныя жыхары Прыбалтыкі не вывучалі мову карэннай нацыі. У Беларусі працэнтаў 70 насельніцтва — рускамоўнае...

*— Ці азначае гэта, што беларусізацыя ўшчамляе інтарэсы рускамоўных грамадзян і нам пагражаюць міжнацыянальныя канфлікты?*

— Не, не пагражаюць. Мы іх папярэдзілі законам «Аб нацыянальных меншасцях», які ўраўняў у правах усіх грамадзян Рэспублікі Беларусь. Але ў Прыбалтыцы і іншых суверэнных дзяржавах блізкага замежжа сітуацыя іншая.

Тры фактары прымушаюць задумацца этнічных беларусаў аб вяртанні, напрыклад, з Прыбалтыкі на радзіму: як вывучыць за кароткі тэрмін мову карэннай нацыі? Як выхоўваць і навучаць дзяцей? Як існаваць? Асобы, якія не ведаюць дзяржаўнай мовы, першымі звальняюцца з работы, паколькі вытворчасць пераходзіць на дзяржаўную мову. Хоць адзначу, што ўзровень жыцця там значна вышэйшы, чым у нас, і каб не стаяла праблема мовы, тамтэйшыя этнічныя беларусы не крануліся б з месца.

*— Дык яны ж у большасці рускамоўныя. Выходзіць, яны разлічваюць у нас жыць так, як жылі там, і адукоўваць дзяцей у рускамоўных садках і школах?*

— Відаць, так.

*— Якая розніца ў становішчы беларусаў у Літве, з аднаго боку, і Латвіі і Эстоніі, з другога?*

— У Літве Народны фронт раскалоўся. Спакойная эвалюцыйная палітыка Бразаўскаса зняла напружанне паміж літоўцамі і беларускай этнічнай меншасцю. Там застаецца іншая праблема: пэўнае кола асоб, магчыма, нацыяналістычнага напрамку, патрабуе суда над тымі, хто быццам бы з'яўляецца акупантам, над той жа былой Савецкай арміяй. У Латвіі і Эстоніі іншая сітуацыя: карэннае насельніцтва ў працэнтных адносінах не на шмат пераважае рускамоўнае, і яно баіцца растварыцца ў чужародным асяроддзі, знікнуць як нацыя з твару зямлі. Таму там вельмі жорстка пастаўлена пытанне аб грамадзянстве і мове. Сёння ў Латвіі 120 тыс. этнічных беларусаў пазбаўлены грамадзянства, сталі апатрыдамі, у Эстоніі 19 тыс. этнічных беларусаў спасцігла такая ж доля. І калі будзе выведзена апошняе расійскае войска, гэтым людзям не будзе дзе падзецца. Асабліва, калі ідзе пастаянны псіхалагічны дыскрымінацыйны прэс у друку і на побытавым узроўні. Спроба стварыць монанацыянальныя дзяржавы на Каўказе прывялі да ваенных канфліктаў.

*— Дык якая ставіцца задача: бараніць правы этнічных беларусаў ці правы ўсіх рускамоўных у Прыбалтыцы?*

— Бараніць правы беларусаў. Бяда ў тым, што калі гаворыць ад імя рускамоўнага насельніцтва ў той жа Прыбалтыцы, то хочаш не хочаш, нашы беларусы ўцягваюцца ў канфліктную сітуацыю латышоў і эстонцаў з расіянамі, і тады ўсіх пад адзін грэбень грабуць. На

*Працяг на 4-й стар.*

# МІГРАЦЫЯ: У БЕЛАРУСІ ДА ЯЕ ПАДРЫХТАВАЛАСЯ ТОЛЬКІ МАФІЯ?

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)

міжнародных канферэнцыях, дзе б я ні быў, заўсёды ўзнікалі канфлікты паміж Прыбалтыйскімі краінамі і Расіяй. Я з такой трывогай гавару пра Прыбалтыку, бо там не прыняты закон аб грамадзянстве і этнічных беларусаў гэта вельмі кранае.

— *Рэдакцыі вядома, што зроблена заява ў Вярхоўны Савет, Міністэрства замежных спраў РБ і Згуртаванню беларусаў свету «Бацькаўшчына» старшыні ТБМ Латвіі сп. Алеся Карневіча і іншых асоб з просьбай дапамагчы этнічным беларусам вярнуцца на радзіму. У якасці перашкоды называюцца такія, як адсутнасць пасольства Беларусі ў Латвіі, куды яны маглі б звярнуцца са сваімі праблемамі, адсутнасць закона аб грамадзянстве, увядзенне візавага рэжыму і адсутнасць сумеснага пагаднення ўрадаў Латвіі і Беларусі наконт беларускай дыяспары і мытні. Выказана і просьба дапамагчы стварыць фонд дапамогі развіццю беларускай культуры ў Латвіі. Скажыце, як адрэагавалі наш урад і Дзяржаўная міграцыйная служба на гэтыя захады і ўвогуле на праблему?*

— Сапраўды, мы выйшлі ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь з прапановай рашыць праблемы беларусаў Латвіі. А менавіта: заключыць двухбаковае міжурадавае пагадненне аб рэгуляванні міграцыйных працэсаў і абароне правоў і інтарэсаў беларускай нацыянальнай меншасці ў Латвіі і аб рэгуляванні свабоднага перасялення этнічных беларусаў з Латвіі ў Беларусь і наадварот — этнічных латышоў з Беларусі ў Латвію. Мы выйшлі таксама ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета з прапановай прыняць указ аб наданні грамадзянства асобам, якія пражывалі раней на тэрыторыі Беларусі, прыняць пастанову Савета Міністраў РБ «Аб першапачатковых мерах па аказанні дапамогі беларусам, што жывуць у Латвіі» і прадугледзець у ім стварэнне сацыяльнага дзяржаўнага фонду па фінансаванні развіцця беларускай культуры ў Латвіі.

— *І які вынік?*

— Вярхоўны Савет 5 чэрвеня 1993 г. унёс дапаўненне ў закон «Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь», які дазваляе асобам, што раней пражывалі ў Беларусі і мелі савецкае грамадзянства, атрымаць грамадзянства Рэспублікі Беларусь. Таму латвійскія беларусы, якія сёння там пражываюць, атрымалі магчымасць стаць нашымі грамадзянамі.

— *Гэта Ваша перамога.*

— А тое, што мы сёння не змаглі пераканаць Вярхоўны Савет прыняць Закон аб бежанцах і вымушаных перасяленцах і што ўвогуле сёння патрэбна міграцыйнае заканадаўства суверэннай дзяржавы, — гэта наша паражэнне.

— *Уладзімір Якаўлевіч, народны дэпутат Сямдзянава, выступаючы 17 лістапада 1993 г. на сесіі Вярхоўнага Савета, папракнула Дзяржаўную міграцыйную службу ў бяздзейнасці і іншых «грахах»...*

— Мяне балюча ўразіла сказанае Сямдзянавай у наш адрас. Справа ў тым, што 20 кастрычніка яна звярнулася ў Дзяржаўную міграцыйную службу з запытам удакладніць звесткі па бежанцах, палітэмігрантах і жыхарах СНД, якія сёння пражываюць на Беларусі. Яе цікавілі таксама іх правы і льготы, а таксама на аснове якога закона рэгулюецца міграцыйны працэс. У сваім адказе я растлумачыў дэпутату, якая склалася міграцыйная сітуацыя ў рэспубліцы, даў аб'ектыўную інфармацыю па ўсіх пунктах запыту. Я разлічваў, што пры дапамозе і падтрымцы Сямдзянавай пытанні гэтыя знойдуць асвятленне на чарговай сесіі Вярхоўнага Савета. Аднак гэтага не здарылася. Сямдзянавай я пісаў, што ажыццяўленне міграцыйнай палітыкі стрымліваецца адсутнасцю міграцыйнага заканадаўства ў рэспубліцы. Праект закона «Аб бежанцах і вымушаных перасяленцах» мы распрацавалі амаль паўтара года назад, але ён не прымаецца.

Бачачы, што закон не прымаецца, мы распрацавалі праект часовага палажэння «Аб першапачатковых мерах па аказанні дапамогі бежанцам». Да гэтага часу і гэты праект не разгледжаны.

— *І што прапануеце рабіць?*

— Мы ўжо пісалі ў Савет Міністраў. Па-першае, неабходна як найхутчэй вынесці на разгляд сесіі Вярхоўнага Савета праект закона «Аб бежанцах і вымушаных перасяленцах». Разуменне ў Вярхоўнага Савета і ўрада такое, што, калі прыняць закон, то да нас усе пабягуць, і абставіны яшчэ больш ускладняцца. Але любая дзяржава павінна фарміраваць сваю міграцыйную палітыку, якая зыходзіць з абаронных і дазвольных мер. Па-другое, паколькі прынятыя законы не рэгулююць у поўным аб'ёме кола праблем, што стаяць перад Дзяржаўнай міграцыйнай службай, неабходна выдзеліць сродкі на распрацоўку законапраекта аб іміграцыі і актаў, якія б рэгулявалі міграцыйныя працэсы.

Па-трэцяе, для аказання фінансавай дапамогі бежанцам і вымушаным перасяленцам стварыць рэспубліканскі дзяржаўны фонд. Такога фонду ў нас не існуе, і перасяленцы не маюць ад сваёй этнічнай радзімы матэрыяльнай падтрымкі. Сама міграцыйная служба фінансуецца ўрадам толькі са студзеня 1993 г.

— *А тым часам паток мігрантаў пачынае ператварацца ў патоп. Беларусь не вытрымае такога наплыву. Якія Вашы апошнія захады па спыненні нелегальнай міграцыі?*

— 8 снежня мы накіравалі ў Савет Міністраў запіску «Аб міграцыйнай сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь». Мы інфармуем урад аб трывожнай міграцыйнай сітуацыі, узмацненні масавай міжнароднай міграцыі ў рэспубліку і прапануем распрацаваць урадавы праект і прыняць па гэтаму праекту пастанову Савета Міністраў «Аб мерах па ўвядзенні іміграцыйнага кантролю на Дзяржаўнай мяжы і ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь»; скараціць тэрмін бязвізавага пражывання замежных грамадзян на тэрыторыі рэспублікі; распрацаваць працэдуру дэпартацыі замежных грамадзян і імігрантаў, якія прыбываюць да нас нелегальна; наладзіць узаемадзеянне ўсіх дзяржаўных службаў — КДБ, Міністэрства юстыцыі, Міністэрстваў замежных і ўнутраных спраў, выканкамаў мясцовых Саветаў і Дзяржаўнай міграцыйнай службы па процідзеянню нелегальнай міграцыі.

— *У сваім выступленні на сесіі Вярхоўнага Савета Г. Сямдзянава папракнула міграцыйную службу ў тым, што ні ў адным пункце свайго палажэння яна не вызначыла сваіх задач ў адносінах да чарнобыльцаў, па забеспячэнні іх жыллём і работай. Што Вы на гэта скажаце?*

— Міграцыйная служба займацца распрацоўкай рэалізацыі міграцыйнай палітыкі, звязанай са знешняй працоўнай міграцыяй і вымушанай міграцыяй, гэта значыць з бежанцамі. Магчыма, з часам Дзяржаўная міграцыйная служба вылучыцца ў асобнае міністэрства або ведамства, як гэта ў іншых краінах. Тады яна будзе займацца рэгуляваннем міграцыйных працэсаў і на тэрыторыі рэспублікі. Пытаннем перасялення жыхароў чарнобыльскай зоны займаецца Камітэт па Чарнобылю на чале з намеснікам Старшыні Саўміна Кенікам. Ёсць Упраўленне па надзвычайных сітуацыях. У прыватнасці, па ліквідацыі вынікаў Чарнобыльскай катастрофы. Там людзей у некалькі разоў больш, чым у нас.

— *Сп. Сямдзянава кідае Вам і такі папрок: «Служба не ўлічвае патрэбы нашых жыхароў». Ці так гэта?*

— Міграцыйная служба ўлічвае патрэбы жыхароў Беларусі, таму што яна займаецца знешняй працоўнай міграцыяй, пашырэннем рабочых месц за мяжой, спрабуе заключыць пагадненні з іншымі дзяржавамі, каб аслабіць напружанне на нашым рынку занятасці.

— *Калі ласка, пракаменціруйце выпадак, пра які пісала «Наша слова» у № 32. Летам 1993 года ў аддзел па працы з мігрантамі пры Менгарвыканкаме звярнуўся бежанец з Абхазіі Каралькоў Яўген Мікалаевіч — былы мінчанін, былы грамадзянін Беларусі, уцёк з-пад куль і папрасіў прытулку. Начальнік кабінета яму адмовіў. Ён сказаў: «Вам дарога сюды закрыта». Царыкевіч яго прозвішча. Магчыма, ён меў на гэта права у выпадку, калі дадатак да закона «Аб грамадзянстве рэспублікі Беларусь» не быў яшчэ прыняты ўрадам?*

— Такога права ён не меў. Гэта разуменне самога Царыкевіча. З гарачых кропак былога Саюза мы прымалі і прымаем усіх, ад самага пачатку існавання міграцыйнай службы.

— *Дык што ж у такім выпадку павінен быў зрабіць Царыкевіч?*

— Ён павінен быў яго зарэгістраваць у міграцыйнай службе, прыняць ад яго заяву, дзе б указваўся раён, з якога ўцёк Каралькоў, яго дакладны адрас, склад сям'і і г.д. з тым, каб вызначыць яго далейшы лёс. Дзеля гэтага трэба было звярнуцца ў гарвыканкам з прапановай дазволіць гэтаму бежанцу часова пасяліцца ў г. Менску, а ў міліцыю — з хадайніцтвам прапісаць яго ў горадзе. Тады Каралькоў змог бы звярнуцца ў гарадскую службу занятасці, а тая пасадзейнічала б у атрыманні працы.

Іншая справа, што паколькі ў нас няма пунктаў для часовага размяшчэння бежанцаў і перасяленцаў, фонду дапамогі такім людзям, мы не змаглі б яму даць часовы прытулак для размяшчэння і матэрыяльную дапамогу. Яму давялося б прапісвацца на жылой плошчы сваякоў або знаёмых, калі б не атрымалася прапісаць яго ў інтэрнаце.

Дарэчы, спадар Царыкевіч у нас ужо не працуе.

— *І апошняе пытанне. Калі Дзяржаўная міграцыйная служба гатова будзе перайсці на рабочую дзяржаўную мову?*

— Мы гатовы перайсці на яе хоць сёння. Усе нашы работнікі беларускай мовай валодаюць. Для мяне асабіста гэта таксама не праблема. Я — беларус, скончыў беларускую школу на Магілёўшчыне, у інстытут паступаў — здаваў экзамены па-беларуску, два гады выкладаў на беларускай мове гісторыю Беларусі ў Менскім інстытуце фізічнай культуры. І пішу, і гавару, і выступаю на ёй зараз. Але мы не можам перайсці на беларускую мову да таго, пакуль не пяройдуць на яе ўрадавыя колы, а гэта павінна адбыцца ў сярэдзіне 1994 года.

Хто ж павінен арганізоўваць і выконваць Закон, прыняты Вярхоўным Саветам? Гэта роля структурных падраздзелаў выканаўчай улады. Нельга думаць аб фарміраванні нацыянальнай палітыкі, нацыянальнай эканомікі і не клапаціцца аб нацыянальных кадрах. У процілеглым выпадку можна стаць іванамі, якія не помняць свайго роду. Так мы можам адмовіцца і ад сучаснага, а ўрэшце і ад будучыні сваёй. Я не прыхільнік, ведаеце, занадта так пляваць на сваё мінулае — гэта наша мінулае, і няма куды ад яго дзецца.

— *Дзякую за гутарку.*

Распытвала Ірына КРЭНЬ.

*БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА*

## «ПОЛАЦАК»

Чарговы нумар (№ 8) часопіса «Полацак», што выдаецца ў Кліўлендзе (ЗША) адкрываецца віншаваннем беларускай паэткі Натаццi Арсенневай з 90-годдзем. «Наша слова» далучаецца да гэтага віншавання і зычыць паэтцы здароўя і ўсяго самага найлепшага. У рубрыцы «Наша гісторыя» змешчаны артыкулы Анатоля Грыцкевіча «Узнікненне феадальных дзяржаў беларусаў у працэсе ўтварэння дзяржаў у славян» і Людмілы Дучыц «Варагі ў Беларусі». «Полацак» працягвае знаёміць чытачоў з «Тапаграфіяй знаходак манет і аздоб» Міхася Белемука. На гэты раз падаюцца знаходкі з Брэсцкай вобласці.

У суботу, 16 кастрычніка 1993 года ў Доме літаратара адбылася канферэнцыя некамуністычных і антыімперскіх сіл Беларусі. Запісамі з гэтага форуму дзеліцца Міхась Дубок.

«Беларускім бібліятэкам неабходна пакрысе ствараць каталогі і паказнікі рэдкіх фондаў дзяржаўных і прыватных бібліятэк, зводныя каталогі гістарычна склаўшыхся калекцый, пачаўшы мо з «Бібліятэкі Ардынацыі Нясвіжскай (Радзівілаўскай)» — так пачынаецца артыкул Валеры Герасімава «Бібліятэкі на беларускім шляху».

«Калі Беларусь перастала быць краем, невядомым для саміх беларусаў». — даследаванне Аляксандра Макарэвіча і Уладзіміра Міхнюка змешчана ў рубрыцы «З архіваў КДБ», у якім гаворыцца пра лёс Аркадзя Смоліча. Тут жа змешчаны «Сведчанні А. А. Смоліча ад 15 чэрвеня 1930 г.».

«Полацак» працягвае друкаваць успаміны Яўгена Ціхановіча. Пра самога ж мастака распавядае ў нататках «Ганаровы грамадзянін Дунайва - раша» Віктар Шматаў.

Рэпартаж з вечарыны, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння Максіма Гарэцкага, якая адбылася ў ААН, падрыхтавала Святлана Менская. Пра свята ў Чыкага, якое было прысвечана 35-годдзю царквы святога Юрыя, распавядае Святлана Анатольева. «Ты быў, як месяц адзінокі» — так называецца артыкул С. Белай пра Максіма Багдановіча. З літаратурных твораў змешчаны працяг быліцы «І з агню ды ў полымя» Міхася Кавыля.

Апошнія старонкі «Полацака» прысвечаны светлай памяці Сяргея Карніловіча, які быў адданым і шчырым патрыётам Беларусі.

У часопісе шмат іншай інфармацыі з культурнага і грамадскага жыцця беларусаў у замежжы.

В. А.

## Беластоцкі «Часопіс», № 12

На Беларусь прыйшоў чарговы нумар беластоцкага «Часопіса», у якім на гэты раз багата беларускамоўных матэрыялаў. «Абгрунтоўваю нашу бытнасць на гэтай зямлі» — так назваў сваё інтэрв'ю Пётр Байко з інжынерам Барыславам Рудкоўскім, лаўрэатам Ордэна св. Марыі Магдаліны II ступені. Юры Каліна прапануе чытачам «Часопіса» гутарку са Зміцерам Жданюком, выканаўчым сакратаром Управы Беларускага Народнага Фронта, адказнага за пытанні сродкаў масавай інфармацыі. На пытанне Ю. Каліны наконт перспектыў выкарыстання сродкамі масавай інфармацыі ў Беларусі сваёй ролі спадар Зміцер адказаў: «Фактычна атрымоўваецца нейкае зачараванае кола. З аднаго боку, гэта можна вырашыць толькі пасля дэмакратычных выбараў у Вярхоўны Савет, але ж, каб яны адбыліся, патрэбны свабодны доступ да сродкаў масавай інфармацыі ўсіх палітычных плыняў. Я лічу, што ўсё большую ролю ў развязцы гэтага пытання будзе выконваць спонсарства...»

З 28 чэрвеня па 2 ліпеня 1993 года ў Гародні праходзіла міжнародная навуковая канферэнцыя «Рым-4», прысвечаная нацыянальным і рэгіянальным культурам Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны. Пра канферэнцыю распавядае Алеся Літвіноўская.

Пра новую кнігу Яўгена Міpановіча разважае Сакрат Яновіч, а адзін з чытачоў «Часопіса», які падпісаўся М. С.,— пра насценны праваслаўны каляндар.

У выданні шмат іншай інфармацыі з жыцця беларусаў на Беласточчыне.

Н. К.

## Вучымся!

СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

# Прывітай добрым словам

ПАВОЛЬНА (без спешкі і мерна) *Андрэй стаяў у вагоне ля акна і глядзеў, як перон павольна адплываў назад* (Дуброўскі), ПАВОЛІ *Мікола гаварыў паволі, узважваючы кожнае слова* (Новікаў), НЯСПЕШНА *Прахожыя ішлі па тратуары няспешна, быццам без пэўнай мэты* (Карпаў), НЕПАСПЕШЛІВА *Ён* [*Рыбакоў*] *ішоў непаспешліва і спакойна, хаваючы ў руцэ нейкі скрутак*, НЕ СПЯШАЮЧЫСЯ *Халуста пакрочыў да млына не спяшаючыся, спыняючыся, гледзячы ў бакі* (Чарнышэвіч), НЯШПАРКА *Ідзе сабе з кавенькаю няшпарка Кузьміч асенняй золкай раніцой* (Зарыцкі), НЕТАРОПКА *Урэшце звер махнуў галавой і нетаропка схаваўся ў зарасніку* (Парахневіч), ПАМАЛУ *Ідзем памалу. У бацькі баляць ногі* (Сачанка), ПАЦІХУ *Спачатку ішлі паціху, затым камандзір загадаў падцягнуцца* (Жычка), ЦІХА *А цягнік усё ішоў ціха, паволі* (Лынькоў), МАРУДНА *Ішлі да лагера марудна, старанна прыглядаліся, прыслухоўваліся* (Кулакоўскі), МАРУДЛІВА *Поезд пасоўваўся неяк лена, марудліва* (Кавалёў), ЛЯНІВА *Ён* [*Ігнат*] *павярнуўся і, не спяшаючыся, ляніва паплёўся ў хату* (Мележ), СПАКВАЛЯ размоўнае (марудна, патрохі, паступова) *Асобныя лісты, пачырванеўшы, абрываюцца і спакваля падаюць на дарогу* (Скрыган), ПРАЗ ГАДЗІНУ ПА ЧАЙНАЙ ЛЫЖЦЫ разм. (надта марудна, ледзь-ледзь) ЯК (або ШТО, БЫ) МОКРАЕ ГАРЫЦЬ разм. (вельмі марудна — рабіць што-небудзь) — *Толькі цікуе* [*Капейка*] *спадылба, як той воўк,— сказала мама.— А робіць — ну, што мокрае гарыць. Агоркла ўжо глядзець на гэтую работу* (Брыль) // (са словамі «ісці», «цягнуцца» і пад.), НАГА ЗА НАГУ разм. (вельмі павольна, ледзь перастаўляючы ногі) *Конь пляцецца нага за нагу, і сані слізгаюць амаль нячутна* (Асіпенка), ЯК НЕ СВАІМІ НАГАМІ разм. *Што ты ідзеш як не сваімі нагамі.*

ПАГРАНІЧЧА (месца, зона, раён на граніцы) *У штабе атрада мне паказалі адзін з шматлікіх дакументаў мужнасці. Два лісточкі паперы, на якіх формай рапарта начальніка заставы каротка і суха гаварылася аб змаганні і смерці васемнаццаці герояў пагранічча* (Брыль), ПАРУБЕЖЖА, ПАМЕЖЖА разм. (паласа, тэрыторыя, якая мяжуецца з чым-небудзь), СУМЕЖЖА разм. (паласа, тэрыторыя, якая мяжуецца з чым-небудзь).

ПАДАРОЖНІК (чалавек, які падарожнічае, вандруе) *Дапытлівых і смелых вабяць і клічуць дарогі! Адных чакаюць нязведаныя сцежкі падарожнікаў і даследчыкаў, другіх — паветраныя прасторы, трэціх — марскія шляхі* (Шыловіч), ПАДАРОЖНЫ *Можна ў вас абсушыцца падарожнаму? — жаласліва спытаў Хведар і, мокры да ніткі, ступіў у хату* (Ваданосаў), ВАНДРОЎНІК *Вось у гэтае мястэчка і накіраваліся нашы вандроўнікі — Лабановіч і Садовіч* (Колас) ВАНДРОВЕЦ і ВАНДРОЎЦА разм. *Шапку зняў* [*сын*] *і глянуў моўчкі на сваю старую хатку, дзе хусцінкай церла вочы па сынах вандроўцах матка* (Дубоўка), ПАЯЗДЖАНІН *Так усе гэтыя паязджане выехалі з Баранавіч* (Чорны), *Злобны сівер налятаў, шкуматаў у бярозак спушчастае голле, узвіхрываў снег і сыпаў ім у твар паязджанам* (Лецка). *У свядомасці Купалы нараджаўся фантастычны вобраз здарожаных паязджан* (Бярозкін), ПІЛІГРЫМ кніжнае *Няхай паслужыць мне здароўе, Як пілігрыму кій дарожны,— Пайду пяшком у Прыдняпроўе і завітаю ў луг мурожны* (Гаўрусёў), ВАЯЖОР устарэлае, цяпер іранічнае

— падарожніца,
— падарожная,
— вандроўніца,
— паязджанка,
— пілігрымка,
— ваяжорка.

ПАДАРУНАК (тое, што дораць, што падорана) *Пасярод зямлянкі стаяў добры дубовы стол — работа рук Карпа Маеўскага, яго падарунак камандзіру* (Шамякін), ДАРУНАК разм. *Дарункі Галі спадабаліся, але яшчэ больш спадабаліся цёплыя ласкавыя рукі гэтай цёці* (Васілевіч), ДАР (тое, што даецца ва ўласнасць дарма) *А гэта скрыня — дар ад мужа. Як быў яшчэ ён жаніхом* (Колас), ГАСЦІНЕЦ (рэч, ласунак і пад., якія госць або блізкі даюць каму-небудзь як падарунак) *У суботу Арсень ледзь не ўвесь дзень бегаў па горадзе з крамы ў краму, каб купіць што з гасцінцаў родным* (Хадкевіч), ПРЭЗЕНТ разм., уст. (падарунак, гасцінец) *Студэнт атрымаў за яе* [*Соніны*] *капрызы ў прэзент залаты партсігар* (Бядуля).

ПАДАСІНАВІК (ядомы грыб з чырвонай або чырвона-бурай шапкай) *Глухімі сцежкамі ласінымі Нядарма ногі ты цягаў: Глянь, пад асінай падасінавік У яркай шапцы, як цыган* (Цвірка), ЧЫРВОНАГАЛОВІК *Чырвонагаловікі і бабкі хаваюцца ў высокай траве на палянах* (Чорны), АСАВІК абл. *Паміж леташніх лістоў Чырванее асавік, А за ім — караль грыбоў, Сам магутны баравік* (Глебка).

1. ПАДАТЛІВЫ (пра матэрыял, рэчыва, прадметы: які лёгка паддаецца апрацоўцы, уздзеянню, змяняе форму, становішча і пад.) *Зямля была мяккая, падатлівая* (Асіпенка), ПАСЛУХМЯНЫ *А скора паслухмяныя машыны святло сваё адсюль дадуць акрузе* (Дубоўка), ПАСЛУШНЫ *Я адзін, трэці дзень Мне паслушны плугі* (Нядзведскі).

2. ПАДАТЛІВЫ (пра чалавека, які лёгка паддаецца ўгаворам, ідзе на ўступкі) *Астаповіч змалку і дагэтуль быў чалавек мяккі і падатлівы чужому слову* (Чорны). УСТУПЧЫВЫ [Вольга:] — *Уступчывы ты, Андрэй. Калі ты моцна перакананы ў праваце сваёй, трэба адстойваць свой погляд* (Пестрак), ЗГАВОРЛІВЫ *Сонцаў быў разам з тым вельмі дабрадушным і згаворлівым, у адрозненне ад суровага і цвёрдага Быстрова* (Мележ), ПАМЯРКОЎНЫ [*Макар:*] — *Я чалавек памяркоўны, жонцы амаль ніколі не пярэчу* (Корбан).

---

Артыкулы рыхтуюцца паводле «Даведніка па пунктуацыі беларускай мовы» доктара філалагічных навук, прафесара БДУ Л. І. Бурака і пры яго кансультацыі.

УДАКЛАДНІМ

# Знакі прыпынку пры аднародных членах

## АДНАРОДНЫЯ ЧЛЕНЫ З АБАГУЛЬНЯЮЧЫМІ СЛОВАМІ

1. Калі абагульняючае слова (займеннік ці прыслоўе) знаходзіцца ўперадзе аднародных членаў, то перад гэтымі членамі ставіцца двукроп'е: *Усё маўчала: і лес, і поле, луг і гай* (Якуб Колас).

Пры аслабленым абагульненні, наяўнасці дадатковых адценняў і ўзмоцненым лагічным выдзяленні аднародных членаў замест двукроп'я перад імі можа ставіцца працяжнік: *Усё цвіло — яблыні, вішні* (І. Грамовіч). *Ніколі дзед з кажухом не расставаўся — ні зімой, ні летам* (Якуб Колас).

2. Калі ў ролі абагульняючага слова ўжываецца назоўнік або іншая часціна мовы (акрамя займенніка і прыслоўя з указальна-азначальным значэннем), то яно звычайна размяшчаецца перад аднароднымі членамі і часцей за ўсё аддзяляецца ад іх пры дапамозе двукроп'я: *Яны выйшлі ўтрох: Самоцька, Якуб Сегень, і Зэнак* (Кузьма Чорны). *Усе былі апрануты па-святочнаму: чысценька і прыгожа* (Якуб Колас).

*Заўвага.* Калі кожны з аднародных членаў пішацца з абзаца, тады паміж гэтымі членамі ў залежнасці ад развітасці ставіцца кропка з коскай або кропка. У афіцыйна-дзелавых і навуковых тэкстах у пачатку кожнага абзаца можа ставіцца працяжнік, каб адпаведным чынам выдзеліць і падкрэсліць важнасць таго, што абазначана аднароднымі членамі або іх групамі.

Пры аслабленым абагульненні, наяўнасці дадатковых адценняў і ўзмоцненым лагічным выдзяленні аднародных членаў пасля абагульняючага слова ставіцца працяжнік. *Шпак прывёз да склада цэлыя драбіны дабра — плуг, акучнік, вагу, пружыноўку...* (Я. Брыль).

3. У тых выпадках, калі пасля агульнага назоўніка размешчаны аднародныя члены, выражаныя ўласнымі назоўнікамі, двукроп'е або працяжнік не ставяцца (калі абагульняючым словам гэты назоўнік не з'яўляецца): *Многа вершаў прысвяцілі беларускія паэты рэкам Нёману, Дзвіне, Бярозе, Прыпяці і інш.* (ЛіМ).

Але калі агульны назоўнік з'яўляецца абагульняючым словам, то ў залежнасці ад характару абагульнення паміж ім і аднароднымі членамі, выражанымі ўласнымі назоўнікамі, ставяцца двукроп'е або працяжнік: *У Чорнае мора ўпадаюць рэкі: Днепр, Дон, Кубань і інш.* (Б. Мікуліч).

Калі абагульненне, афармленае агульным назоўнікам, падмацоўваецца звязаным з ім прыметнікам або іншай часцінай мовы, тады пастаноўка двукроп'я або працяжніка з'яўляецца абавязковай: *Кожны дзень сюды наведваліся нашы хлопцы — Сымон або Мікіта* (Кузма Чорны).

4. Калі паміж абагульняючым словам і аднароднымі членамі размешчаны словы *напрыклад, а іменна,* то перад гэтымі словамі ставіцца коска, а пасля іх — двукроп'е.

5. Калі абагульняючае слова знаходзіцца пасля аднародных членаў, то перад ім ставіцца працяжнік: *Будынак, парк і агароджа — было ўсё слаўна і прыгожа* (Якуб Колас).

Пры большай паўзе і ўзмоцненай катэгарычнасці абагульнення паміж аднароднымі членамі (асабліва калі яны развітыя або ўтвараюць шматчленны рад) і абагульняючым словам сустракаецца пастаноўка коскі з працяжнікам: *У агарод, на рэчку, у сяло, — усюды я браў яго з сабою* (І. Грамовіч).

6. Калі абагульняючае слова, выражанае назоўнікам, узмацняецца займеннікам *увесь (уся, усё)* і размяшчаецца пасля аднародных членаў, то яно аддзяляецца ад іх пры дапамозе коскі: *Вераб'і, ластаўкі, сініцы, усе птушкі любяць сонца і цяпло* (Змітрок Бядуля).

Але калі паміж абагульняючым словам і адзначаным займеннікам знаходзіцца яшчэ займеннік *гэта (гэты, гэтая, гэтыя),* тады аднародныя члены звычайна аддзяляюцца ад абагульняючага слова пры дапамозе працяжніка: *Панарад, восі, колы — усе гэтыя прылады ў дзядзькі былі адмысловыя* (Якуб Колас).

7. Калі паміж аднароднымі членамі і абагульняючым словам знаходзіцца часціца *вось (вот, от),* то перад ёй заўсёды ставіцца працяжнік: *Чысціня і парадак — вось што радуе вока ў хаце добрай гаспадыні* (В. Каваль). *Скрыпка і флейта — от на чым я іграю* (Кузьма Чорны).

8. Калі паміж аднароднымі членамі і абагульняючым словам знаходзяцца пабочныя словы *словам, адным словам,* то перад імі ставіцца працяжнік, а пасля іх — коска: *Поле, дрэвы, хаты — словам, усё было ахутана асеннім змрокам* (П. Галавач).

9. Калі аднародныя члены разам з абагульняючым словам (якое знаходзіцца перад імі) размешчаны ў пачатку або ў сярэдзіне сказа, то перад аднароднымі членамі ставіцца двукроп'е, а пасля іх — працяжнік: *Усё: хаты, і поле, і дарога — чарнела ад асенняй імглы ды туману* (Кузьма Чорны).

*Заўвага 1.* Калі аднародныя члены разам з абагульняючым словам знаходзяцца ў канцы адасобленага звароту або прэдыкатыўнай часткі складанага сказа, то працяжнік звычайна апускаецца, а пакідаецца той знак прыпынку, якім выдзяляецца адасоблены зварот або аддзяляецца адна прэдыкатыўная частка ад другой: *Забраўшы ўсё: спіскі, карты і іншыя дакументы, партызаны зніклі* (М. Лынькоў).

*Заўвага 2.* Калі пералічэнне аднародных членаў у сказе не закончана, тады замест працяжніка ставіцца шматкроп'е: *Ён агледзеў шпаркім позіркам усё: зялёную рунь зямлі, лес, неба... і пайшоў за браму* (Кузьма Чорны).

10. Калі аднародныя члены, якія знаходзяцца ў сярэдзіне сказа пасля абагульняючага слова, маюць характар дадатковага ўдакладнення або тлумачэння, тады яны выдзяляюцца з двух бакоў працяжнікамі: *У лесе кожная мясцінка — лужок, палянка, баравінка — асобны твар і выраз мае* (Якуб Колас).

Пры большай паўзе і развітасці аднародных членаў і аслабленай сувязі іх з абагульняючым словам сустракаецца пастаноўка коскі з працяжнікам, напрыклад: *Усё наваколле, — шырокія палі і лугі, густыя лясы і дубровы, ягадныя паляны і імшары, — было нам добра знаёма* (Янка Маўр).

11. Калі абагульняючыя словы ўжываюцца адначасова перад аднароднымі членамі і пасля іх, то перад аднароднымі членамі ставіцца двукроп'е, а пасля іх — працяжнік або коска з працяжнікам, асабліва калі яны развітыя і маюць свае знакі прыпынку: *Усё ўстала перад вачыма беднае кабеты: маладыя дні дзяўчыны, дзявочыя леты, радасць жыцця і нягоды, сваркі, трасяніна — усё, чым жыццё напаткае ў цяжкую гадзіну* (Якуб Колас).

У тых выпадках, калі аднародныя члены маюць характар дадатковага ўдакладнення або тлумачэння, перад імі і пасля іх можа ставіцца працяжнік: *Усё наўкола — і сцены, і дзеці, і дошка чорная, і настаўнік — усё расло і расплывалася ўшыркі і захапляла сабой яе.* (П. Галавач).

12. Калі аднародныя члены, якія размешчаны ў сказе пасля абагульняючага слова, набываюць устаўное значэнне, тады яны звычайна бяруцца ў дужкі, напрыклад: *Не сядзеў бы ён тут (ні ў павеце, ні ў гміне), каб не жыта яго, што нажатае гіне* (А. Куляшоў).

ЧЫТАЛІ?

# БАЦЬКАЎШЧЫНА:

## межы этнаграфічныя і гістарычныя

Выдавецтва «Беларусь» накладам у 15 тысяч паасобнікаў выпусціла ў свет кніжку вядомых гісторыкаў Льва Казлова і Анатоля Цітова «Беларусь на сямі рубяжах». Асабліва прадстаўляць згаданых аўтараў пастаянным чытачам «Нашага слова», відаць, не варта, бо мы друкавалі гістарычныя анекдоты з папярэдняй кнігі Л. Казлова «З дазволу караля і вялікага князя». А нядаўна газета рэцэнзавала грунтоўныя манаграфіі А. Цітова, прысвечаныя праблемным пытанням айчыннай геральдыкі і сфрагістыкі. Адзначым толькі, што ўсе названыя кніжкі адразу ж зніклі ў кнігарнях з паліц. Мы ўпэўнены, «Беларусь на сямі рубяжах» у гэтым сэнсе не зробіцца выключэннем, бо нават беглае знаёмства з новым даследаваннем навукоўцаў не пакідае сумненняў, што яму таксама наканаваны шчаслівы лёс.

Кароткую прадмову напісаў народны дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь гісторык А. Трусаў. У выдавецкай анатацыі і ў прадмове падкрэслена, што на аснове дакументальных і картаграфічных крыніц у гэтай кнізе ўпершыню разглядаецца гісторыя фарміравання граніц Беларусі — ад старажытных часоў да сучаснасці. Нельга не пагадзіцца са слушнай высновай, выказанай у прадмове: «гісторыя не ведае... выпадкаў, каб палітычныя межы той ці іншай дзяржавы цалкам адпавядалі этнічнай тэрыторыі народа». Безумоўна, усё менавіта так. Але ж у дачыненні да нашай Бацькаўшчыны неадпаведнасць — і сёння і ў не надта далёкім мінулым — стараdaўніх этнічных межаў Беларусі яе сучасным палітычным межам не можа, мякка кажучы, не ўразіць. Праўда, доўгі час гэта з'ява старанна камуфліравалася, а адпаведныя гістарычныя факты афіцыйнай савецкай гістарыяграфіяй фальсіфікаваліся, перакручваліся да непазнавальнасці. Так, напрыклад, у адыёзным школьным падручніку «История БССР» (аўтары Л. С. Абэцэдарскі, М. П. Баранава, Н. Р. Паўлава) значныя тэрытарыяльныя страты Вялікага Княства Літоўскага на ўсходзе ў XVI—XVII стагоддзях аднaзначна тлумачацца «движением за воссоединение с Русским государством», а гвалтоўныя падзелы Рэчы Паспалітай, у выніку якіх, нагадаем, быў пастаўлены крыж на апошніх атрыбутах беларускай дзяржаўнасці, бессаромна названы «воссоединением Белоруссии с Россией». Дарэчы, амаль тое ж самае можна прачытаць і ў іншых, з дазволу сказаць, даследаваннях і манаграфіях, выдадзеных у БССР.

Таму канцэптуальна новы падыход да праблемы суадносін этнаграфічных абсягаў Бацькаўшчыны з яе палітычнымі межамі ў розныя часы, якім кіруюцца аўтары кніжкі «Беларусь на сямі рубяжах», заслугоўвае самай высокай ацэнкі. Тым больш што аўтары робяць свае высновы ўсебакова ўзважана і абгрунтавана, карыстаючыся шматлікімі гістарычнымі крыніцамі. Так, у гэтай, адносна невялікай па аб'ёму (дзевяць улікова-выдавецкіх аркушаў), кніжцы — каля 300 спасылак на дакументы і на 32 малавядомыя ці зусім невядомыя шырокаму чытачу гістарычныя карты.

Кніжка складаецца з дзвюх частак. Аўтар першай Л. Казлоў даходліва і займальна знаёміць з гістарычным паходжаннем паняцця «мяжа», з усталяванай спецыяльнай тэрміналогіяй, якая ўжываецца пры дзяржаўным размежаванні паміж сумежнымі краінамі. Тут жа ўсе беларускія межы ўмоўна падзелены на сем частак: Літоўскае сумежжа, Лівонская граніца, Пскоўская мяжа, Смаленскі край, Северская старана, Палеская ўскраіна і Падляшскі рубеж. Кожнай частцы прысвечаны асобны раздзел, дзе падрабязна прасочана, як у сівой старажытнасці гістарычна ўтварыліся гэтыя этнаграфічныя рубяжы Бацькаўшчыны, як пад агрэсіўным націскам суседніх дзяржаў Беларусь паступова страчвала свае адвечныя землі. Трагічным фіналам згаданага працэсу, як вядома, у канцы XVIII стагоддзя сталі тры падзелы Рэчы Паспалітай. У заключным раздзеле «Па сцэнарыю імператрыцы» аўтар падкрэслівае, што ў выніку падзелаў, ажыццёўленых з дапамогай узброенай сілы Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй паводле пецярбургскіх канвенцый, дзяржаўныя межы Расіі за кошт Беларусі перамясціліся на сотні вёрст на Захад, што «землі Вялікага Княства Літоўскага... сталі здабычай Расійскай імперыі».

З гэтага ж раздзела чытачы таксама даведаюцца, што вызваленчае паўстанне 1794 года ў Польшчы, Літве і на Беларусі пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, якое выбухнула ў адказ на трэці падзел краіны, на тэрыторыі Вялікага Княства было падаўлена пры самым актыўным удзеле фельдмаршала А. Суворава. Праўда, на нашу думку, апошні сюжэт намаляваны ў кнізе чамусьці толькі акварэльнымі фарбамі. Ствараецца ўражанне, што аўтар тут сам сябе стрымлівае, не адважваючыся сказаць усю жорсткую гістарычную праўду.

Зусім па-іншаму, публіцыстычна завострана, з праекцыяй адпаведных падзей на сённяшнія рэаліі падыходзіць да аналізу фактaлогіі А. Цітоў, якому належыць большая частка кнігі — чатыры раздзелы, прысвечаныя васьмі (!) гвалтоўным падзелам нашай Бацькаўшчыны, ажыццёўленым суседнімі краінамі ўжо, зрэшты, нядаўна, у нашым стагоддзі. Са спасылкай на аўтарытэт вядомага славіста члена-карэспандэнта Пецярбургскай Акадэміі навук Яўхіма Карскага аўтар, у прыватнасці, піша: «Беларускі народ, раскіданы пры царызме па розных адміністрацыйных адзінках, тады яшчэ быў здольны зберагаць свой лад жыцця і сваю мову. Вось як зазначаў гэта даследчык: «Беларуская мова... гучыць у губернях: Віцебскай (большая частка), Курляндскай (нязначная частка), Ковенскай (нязначная частка), Віленскай (большая частка), Гродзенскай (палова), Сувалкскай (адзін павет), Мінскай (большая частка), Магілёўскай (уся губерня), Чарнігаўскай (значная частка), Арлоўскай (заходні кут), Калужскай (нязначная частка), Смаленскай (большая частка), Цвярской (нязначная частка), Пскоўскай (нязначная частка)». Пры гэтым, — працягвае А. Цітоў, — у сваіх даследаваннях вучоны строга карыстаўся лінгвістычнымі (моўнымі) адметнасцямі і ўсе спрэчныя пытанні вырашаў не на карысць беларускага этнасу».

Завяршаючы сваю частку кнігі, А. Цітоў піша: «У XX ст. Беларусь перанесла восем падзелаў. За яе кошт набывалі спрадвечныя беларускія землі ледзь не ўсе суседзі: у 1918 г. — Расія і Германія; у 1919 г. да Расіі далучаны ўсходнія землі; у 1920 г. ад Беларусі Крамлём перададзены землі на карысць Літвы і Латвіі: у 1921 г. — РСФСР і УССР, а Заходнюю Беларусь аддалі Польшчы; у 1939 г. — сталінскі падарунак Вільні, Літве; у 1940 г. — па загаду з Масквы Літве адлучаны (нашы) паўночна-заходнія землі; у 1944 — 1950 гг. Польшчы аддадзена Беласточчына; у 1986 г. трэцяя частка Беларусі забруджана атамнай катастрофай, якая адбылася па-за яе межамі».

Кожную гэтую тэрытарыяльную страту Беларусі даследчык доказна ілюструе гістарычнымі дакументамі і адпаведнымі картамі (праўда, паліграфічная якасць апошніх у кнізе атрымалася невысокай). У чытача можа, натуральна, узнікнуць пытанне: як жа так магло стацца, што з'явілася галоўнай прычынай такой гістарычнай несправядлівасці для беларусаў?

Трапны адказ дае аўтар, прыводзячы ў кнізе адну з цытат У. І. Леніна: «Ни один марксист... не может отрицать, что интересы социализма стоят выше, чем интересы права наций на самоопределение». Можна дадаць яшчэ, што страты беларусамі сваёй тэрыторыі былі не ў апошнюю чаргу абумоўлены нізкай нацыянальнай свядомасцю нашага народа. А кніжка «Беларусь на сямі рубяжах» якраз і павінна станоўча ўздзейнічаць на чытачоў, каб абудзіць у кожнага святое пачуццё нацыянальнай годнасці.

Мар'ян ВІЖ.

# ПАЛАЖЭННЕ

## аб тэрміналагічнай камісіі Таварыства Беларускай мовы імя Ф. Скарыны

### АГУЛЬНЫЯ АЗНАЧЭННІ

1. Тэрміналагічная камісія Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ўтвараецца Рэспубліканскай Радай Таварыства на падставе Статута ТБМ. Яна дзейнічае згодна са Статутам ТБМ і Дзяржаўнай праграмай развіцця беларускай мовы ды іншых нацыянальных моў у Рэспубліцы Беларусь.

2. Камісія з'яўляецца цэнтрам распрацоўкі, сістэматызацыі і ўкаранення ў практыку беларускай навукова-тэхнічнай тэрміналогіі і наменклатуры ў розных сферах навукі і грамадскага жыцця.

### ПРЫНЦЫПЫ І НАКІРУНКІ ДЗЕЙНАСЦІ

3. Дзейнасць тэрміналагічнай камісіі грунтуецца на канструктыўных айчынных і сусветных тэрмінатворчых здабытках. Камісія прытрымліваецца тэндэнцыі да міжнароднай уніфікацыі і аднaчасова да мабілізацыі ўласнабеларускіх словаўтваральных сродкаў. Яна кіруецца традыцыйнымі нормамі напісання навуковых тэрмінаў і наменклатуры з улікам рэкамендацый правапіснай камісіі ТБМ.

4. Тэрміналагічная камісія ТБМ

а) даследуе айчынныя і сусветныя напрацоўкі ў слоўнікавай справе і навуковай тэрмінатворчасці;

б) вызначае навуковыя падыходы і прынцыпы распрацоўкі ды ўпарадкавання беларускай навукова-тэхнічнай тэрміналогіі;

в) арганізуе і каардынуе тэрмінатворчую працу па розных галінах ведаў і навуковых і навучальных установах Беларусі;

г) разглядае і зацвярджае вынікі тэрмінатворчай дзейнасці распрацоўшчыкаў;

д) абмяркоўвае і рэкамендуе падрыхтаваныя да выдання тэрміналагічныя слоўнікі, даведнікі, бюлетэні;

е) кансультуе зацікаўленых грамадзян, установы і арганізацыі ў пытаннях тэрміналогіі і наменклатуры;

ж) праводзіць навуковыя семінары, нарады, канферэнцыі па праблемах беларускай тэрміналогіі.

### АРГАНІЗАЦЫЙНАЯ СТРУКТУРА

5. Аснову камісіі складаюць секцыі па найважнейшых галінах навукі.

6. Секцыі аб'ядноўваюць асоб, а таксама творчыя калектывы, створаныя ў навукова-даследчых, навучальных ды іншых установах, якія выконваюць непасрэдную тэрмінатворчую працу ў канкрэтных галінах навукі.

Секцыі ладзяць сваю працу шляхам рабочых семінараў, якія праводзяцца па меры неабходнасці, але не радзей аднаго разу на месяц.

7. Функцыянальныя абавязкі секцый:

а) каардынацыя тэрмінатворчай і тэрмінаграфічнай працы ў пэўных навуковых галінах;

б) метадычная дапамога асобам і творчым калектывам па складанні слоўнікаў і даведнікаў;

в) развязванне спрэчных пытанняў па навукова-тэхнічных тэрмінах;

г) разгляд і рэцэнзаванне падрыхтаваных да друку слоўнікаў, даведнікаў, падручнікаў ды іншых выданняў, перадача іх на зацвярджэнне Рады камісіі.

8. Працай камісіі кіруе Рада ў складзе старшыні, яго намеснікаў, навуковага сакратара і кіраўнікоў галіновых секцый.

9. Рада каардынуе працу галіновых секцый, разглядае і зацвярджае рэцэнзіі на падрыхтаваныя да друку выданні, спрыяе развязванню спрэчных тэрміналагічных пытанняў, выконвае іншую работу па арганізацыі дзейнасці камісіі.

10. Пасяджэнні Рады склікаюцца не радзей чым адзін раз на месяц. Пастановы Рады прымаюцца большасцю галасоў пры наяўнасці 2/3 спісавага складу сяброў.

11. У складзе камісіі працуе таксама філалагічная секцыя, абавязаная дапамагаць галіновым секцыям захоўваць аднастайнасць моўнага рэжыму пры распрацоўцы навукова-тэхнічнай тэрміналогіі.

12. Камісія збірае ды ўтрымлівае ўласную спецыялізаваную бібліятэку.

13. Камісія мае свой інфармацыйны бюлетэнь.

14. Пленарныя пасяджэнні камісіі праводзяцца раз на год. Выніковыя дакументы прымаюцца простай большасцю галасоў.

### ФІНАНСАВА-ТЭХНІЧНАЕ ЗАБЕСПЯЧЭННЕ

15. Тэрміналагічная камісія ў свёй дзейнасці абапіраецца на матэрыяльна-тэхнічную базу і фінансавую падтрымку Таварыства беларускай мовы, выкарыстоўвае сродкі фундатараў.

Зацверджана на пасяджэнні
Рэспубліканскай рады ТБМ

*Працяг. Пачатак у № 1.*

Тоні выцягнуў з кішэні асабовы спіс і паклаў яго побач з журналам рэгістрацыі пастаяльцаў.

— У нумары 14-Б ніхто не жыве, — прамовіў ён строга.

Дзяжурны ветліва паправіў гальштук.

— Ты бачыў, калі прыйшоў гэты хлопец?

— Каго вы маеце на ўвазе?

— Той, што прыехаў з Сан-Дыега?

Дзяжурны пазяхнуў.

— Ён ні пра кога не пытаўся?

Дзяжурны не скончыў пазяханне і са здзіўленнем паглядзеў на Тоні.

— Спытаў... Спытаў, ці іграюць у нас тут свінг па вечарах. А што?

— Усё. Ветліва, дакладна, хутка. Так і трэба працаваць, — сказаў Тоні.

Ён запісаў нешта на паперцы і паклаў яе ў кішэню.

уважліва глядзеў на Тоні.

— Жанчыны вельмі многа балбочуць, — прамовіў ён так, быццам у роце ў яго было нешта такое, што перашкаджала яму гаварыць

— Жанчыны не балбочуць, містэр Ролс.

— Га? — Рэвальвер скакаў у яго руцэ. — Нешта я не разумею.

— Балбочуць не жанчыны. Мужчыны з рэвальверамі.

Зноў настала маўчанне. Чалавек павольна выпраміўся. Па ягоным твары нічога нельга было зразумець, але вочы глядзелі напружана. Тоні выглядаў побач з ім маленькім, кругленькім лагодным чалавечкам з вачыма чыстымі, бы крынічкі.

— Так, гэтыя хлопцы не дрэмлюць, сказаў Джоні Ролс і правёў кончыкам языка па перасохлых губах. — Укалваюць у тры змены. Спаць

Раймaнд ЧАНДЛЕР

ЗАМЕЖНЫ ДЭТЭКТЫЎ

# Я БУДУ ЧАКАЦЬ

## АПАВЯДАННЕ

— Пайду праверу, ці ўсе дзверы зашчэплены. Наверсе ёсць чатыры пустыя нумары. Не спі, хлопец.

— Ды я не сплю, — прамармытаў дзяжурны, зноў пазяхаючы. — Прыходзь хутчэй. Без цябе не ведаю, што мне і рабіць.

— Можаш пакуль абрыць свае вусы, — сказаў Тоні і рушыў да ліфтаў.

Ён уключыў святло ў адной з кабінак, націснуў кнопку чатырнаццатага паверха. Калі ліфт спыніўся, ён выключыў святло, выйшаў і зачыніў дзверы.

Вестыбюль на гэтым паверсе быў самы маленькі, не лічачы трынаццатага. На кожных дзвярах залацістымі літарамі быў пазначаны нумар. Тоні падышоў да 14-А і прыклаў вуха да дзвярэй. Ціха. Ева Крэсі, відаць, спіць. Альбо прымае ванну ці выйшла на балкон. Ці сядзіць каля самых дзвярэй і глядзіць на сцяну. Канешне, калі яна сядзіць і глядзіць на сцяну, нічога не пачуеш. Ён падышоў да 14-Б і прыклаў вуха. Тут шоргат. Нехта кашляе. Падобна, там нехта ёсць. Нехта адзін. Галасоў не чуваць. Тоні націснуў на перламутравы званочак.

Пачуліся нетаропкія крокі.

— Хто? — спытаў гартанны голас.

Тоні не адказаў. Ён ціха стаяў і слухаў. Пытанне паўтарылася. З нечаканай злосцю Тоні зноў націснуў на кнопку.

Містэр Джэймс Уотэрсан з Сан-Дыега, якога ён някепска некалі ведаў, не стаў бы гэтак асцярожнічаць, ён павінен бы проста адчыніць дзверы. А тут нешта не так. За дзвярыма цішыня. Тоні зноў прыслухаўся. Паўнютская цішыня.

Ён выцягнуў звязку ключоў, знайшоў ад 14-Б і асцярожна ўставіў ў замочную адтуліну. Павярнуў. Ледзь-ледзь націснуў на дзверы, выцягнуў ключ і заціх.

— Ну, — голас гучаў жорстка. — Чаго спыніўся?

Тоні поўнасцю адчыніў дзверы. Перад ім стаяў высокі цемнавалосы мужчына з бледным тварам. У руцэ ён трымаў рэвальвер. Падобна, ён умеў карыстацца зброяй.

— Заходзь, — сказаў мужчына.

Тоні ўвайшоў, зачыніў дзверы плячом. Ягоныя рукі выглядалі недарэчна, пальцы напружана застылі. Ён усміхнуўся сваёй абяззбройваючай усмешкай.

— Містэр Уотэрсан?

— Ну і што?

— Я са службы бяспекі гатэля.

— Вельмі рады.

Чалавек павольна адступіў у пакой. Пакой быў вялікі, нізенькі балкон апярэзваў яго з двух бакоў. На гэтым паверсе ў кожным нумары быў балкон. У вугле — камін. Каля століка — зручнае глыбокае крэсла. Чалавек падышоў да яго і апусціў рэвальвер.

— Рады ўвазе да маёй асобы, — сказаў ён. — Яшчэ гадзіны тут не знаходжуся, а паліцыя ўжо з візітам. Шукайце. У шафе, у ваннай. Але яна ўжо пайшла.

— Вы з ёю яшчэ не сустракаліся, — сказаў Тоні.

На бледным твары мужчыны з'явіліся нечаканыя маршчыны. Голас стаў яшчэ больш хрыплым.

— Каго гэта я яшчэ не бачыў?

— Дзяўчыны па імені Ева Крэсі.

Чалавек пракаўтнуў сліну. Ён кінуў рэвальвер на столік, цяжка апусціўся ў крэсла. Відаць, у яго быў радыкуліт. Раптоўна ён усміхнуўся.

— Выходзіць, яна ўсё ж тут! А я пра яе не пытаўся. Я хлопец асцярожны — і не пытаўся пра яе.

— Яна тут ужо пяць дзён, — сказаў Тоні. — Усё чакае вас. Ні на хвіліну не выходзіць на вуліцу.

Чалавек з разуменнем прыкусіў губу.

— Я крыху затрымаўся на поўначы, — сказаў ён ледзь чутна.

— З сябрукамі пабачыўся?

Чалавек падскочыў на месцы і зноў схапіўся за рэвальвер. Крыху нахіліўшыся наперад,

ім няма калі.

— Вы ведаеце, хто яны такія? — спытаў Тоні, панізіўшы голас.

— У мяне ёсць дзевяць здагадак, і дванаццаць з іх будуць правільнымі.

— Крутыя хлопцы, — сказаў Тоні і крыва ўсміхнуўся.

— А дзе яна? — нецярпліва спытаў Джоні Ролс.

— Як раз у суседнім нумары.

Чалавек паклаў рэвальвер на столік і падышоў да сцяны. Ён доўга пазіраў на шпалеры, потым адчыніў дзверы на балкон, сціснуў пальцамі парэнчы. Калі ён зноў павярнуўся, на ягоным твары быў дзіўны выраз. Вочы згубілі жорсткасць, маршчыны разгладзіліся. Ён падышоў да Тоні.

— Яна паслала мне крыху грошыкаў. Яны кажуць — дваццаць пяць тысяч. Але ў мяне толькі пяць соцень. Вось бы яны здзівіліся, каб даведаліся.

— А дзе астатняе?

— Няма больш нічога. І не было. Кропка. Я ведаю, што кажу.

— Я вам веру, — сказаў Тоні.

— Яны забіваюць не часта, але могуць.

— Малакасосы, — сказаў Тоні з раптоўнай пагардай. — Крутыя малакасосы.

— Для чаго вы мне гэта гаворыце?

— Мне здаецца, у вас толькі адзін шанец.

— А калі не?

— Я ўсё ж лічу, што ёсць.

Джоні Ролс задумаўся.

— Другі выхад?

— Службовы ліфт вядзе прама ў гараж. Там можна ўзяць машыну. Магу даць вам картку, пакажаце яе ахоўніку.

— Дзіўны ты хлопец, — сказаў Джоні Ролс.

Тоні выцягнуў бумажнік са страусавай скуры, дастаў адтуль картку, нешта чыркануў на ёй. Джоні Ролс прачытаў і няпэўна паклаў яе ў кішэню.

— Відаць, вазьму, — сказаў ён, адводзячы позірк.

— Яна тут ужо пяць дзён. Усе ўжо ў курсе. Адзін хлопец, якога я ведаю, падыходзіў да мяне і сказаў, каб я яе вывеў на вуліцу. Расказаў мне, у чым справа. А я замест яе выведу вас.

— Ім гэта спадабаецца, — сказаў Тоні. — Табе прынясуць кветкі.

— Будзе час, паплачам.

Джоні Ролс прыпыніўся.

— Убачыцца б з ёю, перш чым зматаюся. Кажаш, яна прама за сценкай?

Тоні развярнуўся на абцасах і пайшоў да дзвярэй. Праз плячо кінуў: — Не губляй часу, прыгажунок. А то перадумаю.

— А раптам ты за мной сочыш?

Тоні не азірнуўся: — Нічога не зробіш, рызыка заўсёды ёсць.

Ён выйшаў з пакою і бясшумна зачыніў дзверы. Паглядзеў на дзверы нумара 14-А і ступіў у ліфт. Апусціўся ў пральню. Адцягнуў кошык, што падпіраў дзверы ў службовы ліфт. Падняўся ў хол.

Дзяжурны засяроджана правяраў рахункі. Праз галоўны хол Тоні прайшоў у музычны салон. Радыёпрыёмнік зноў быў уключаны, але працаваў так ціха, што было ледзьве чуваць. Яна сядзела побач. Гукі былі такімі слабымі і няўцямнымі, што напаміналі шоргат асенняй лістоты. Дзяўчына павольна павярнула галаву і ўсміхнулася яму.

— Праверыў дзверы? Усе? А мне не спіцца. Так што я зноў тут. Нічога?

Ён таксама ўсміхнуўся. Сеў у зялёнае крэсла і пагладзіў абцягнутыя скурай ручкі.

— Вядома, міс Крэсі.

— Чакаць горш за ўсё на свеце. Праўда? Ну што гэта за радыё? Трашчыць, нібы цвыркун.

Тоні пакруціў ручку, не заўважыў нічога незвычайнага і зноў настроіўся на тую ж хвалю.

— У гэты час не спіць хіба што начныя гулякі.

Яна зноў усміхнулася.

— Я вам не надакучыў, міс Крэсі?

— Мне падабаецца. Ты прыемны хлопец, Тоні.

Ён паглядзеў на дзверы і адчуў казытанне ў пазваночніку. Пачакаў, пакуль гэтае адчуванне пройдзе. Адкінуўся на спінку, выпраміўся. Пальцы памацалі ласіны зуб. Прыслухаўся. Не да музыкі. Да нечага ўдалечыні. Магчыма, да шуму матора аўтамабіля, што імчаў у ноч.

— У душы ўсе людзі някепскія, — сказаў услых.

Дзяўчына, прыжмурыўшыся, паглядзела на яго: — Выходзіць, я памылілася з двума ці трыма.

— Так, — згадзіўся ён. — Відаць, бывае і так.

Дзяўчына пазяхнула, і яе глыбокія вочы напаўзаплюшчыліся. Яна скурчылася на падушках.

— Пасядзі са мной крыху, Тоні. Магчыма, я засну.

— Ахвотна. Усё роўна рабіць няма чаго.

Яна заснула хутка, бы дзіця. Хвілін дзесяць Тоні баяўся варухнуцца. Пазіраў, як яна дыхае ў сне, трохі адкрыўшы рот. Быццам знаходзіўся перад алтаром. Потым вельмі асцярожна ўзняўся і на дыбачках накіраваўся да дзяжурнага. Крыху паслухаў, як шоргае аўтаручка за матавым шклом. Потым рушыў да тэлефонных кабін. Зняў трубку і папрасіў тэлефаністку злучыць яго з гаражом.

Пасля некалькіх гудкоў пачуўся звонкі голас: — Гатэль «Уіндэрміер». Гараж.

— Гэта Тоні Рэзэк. Гэты Уотэрсан, якому я даў карту, паехаў?

— Даўно ўжо, Тоні. З паўгадзіны таму. Ты яго прыслаў?

— Я, — сказаў Тоні. — Мой знаёмы. Дзякую. Прывітанне.

Ён павесіў трубку і пачухаў шыю. Вярнуўся да канторкі, ляпнуў далонню па мармуровай пліце. З-за перагародкі ўзнік твар дзяжурнага з загадзя падрыхтаванай усмешкай.

— Ну і праца ў цябе, Тоні. Ніяк не зразумець, калі цябе чакаць.

— Колькі каштуе нумар 14-Б?

— У яго няма цвёрдай цаны.

— Палічы. Гэты тып з'ехаў. Пабыў там не больш гадзіны.

— Ну і чорт з ім,— весела сказаў дзяжурны.— Упырхнуў, выходзіць, і не адзначыўся.

— Пяцёркі табе хопіць?

— Твой прыяцель ці што?

— Не. Алкаголік з маніяй велічы і без граша ў кішэні.

— Ды ладна, і так абыдзецца. Як ён з'ехаў?

—— Мы спусціліся на службовым ліфце. А ты спаў. Дык хопіць пяцёркі?

— Кінь ты, кажу.

На свет з'явіўся бумажнік са страусавай скуры. Тоні працягнуў дзяжурнаму пяцідаларавую купюру.

— Больш у яго не было,— зняважліва прамовіў Тоні.

Дзяжурны са здзіўленнем узяў грошы, пацісну́ў плячыма. Зазваніў тэлефон. Дзяжурны зняў трубку, паслухаў і перадаў Тоні: — Цябе.

Тоні падцягнуў тэлефон бліжэй і прыклаў трубку да вуха. Голас быў незнаёмы. Металічны: — Тоні? Тоні Рэзэк?

— Я.

— Па даручэнню Эла. Можна гаварыць?

Тоні зыркнуў на дзяжурнага: — Знікні...

Дзяжурны слаба ўсміхнуўся і знік.

— Гаварыце,— сказаў Тоні ў трубку.

— У нас выйшла калатнеча з тваім кліентам. Мы яго перахапілі. Эл адчуваў, што так і будзе. Мы яго прыціснулі да сцяны, ды не ўсё атрымалася гладка.

Пальцы Тоні, што сціскалі трубку, пабялелі. Віскам стала холадна: — Гаварыце. Гэта ж, мяркую, не ўсё?

— Яшчэ тое-сёе. Хлопец стрэліў у шэфа. Напавал. Эл загадаў табе перадаць сваё апошняе «бывай»...

Тоні цяжка наваліўся на мармуровую пліту. З горла вырваўся нейкі дзіўны гук.

— Усёк? — нецярпліва спытаў металічны голас.— Хлопец Эла замачыў... Такія справы...— У трубцы шчоўкнула і пачуліся частыя гудкі.

Акуратна, амаль бясшумна Тоні паклаў трубку на рычажкі. Паглядзеў на сваю левую руку. Выцягнуў хусцінку, выцер далонь і правай рукой пачаў церці адубелыя пальцы левай. Выцер лоб. З-за перагародкі выйшаў дзяжурны, яго вочы блішчэлі бы ў ката.

— У мяне ў пятніцу выхадны. Даў бы ты мне гэты тэлефончык?

Тоні схаваў хусцінку, правёў рукой па кішэні. Павярнуўся і пайшоў праз галоўны хол. Ён рухаўся, крадучыся так, быццам у памяшканні знаходзіўся цяжка хворы. Падышоў да крэсла, у якім нядаўна сядзеў, і акунуўся ў зялёны аксаміт. Дзяўчына працягвала соладка спаць, скурчыўшыся ў клубочак, як гэта ўмеюць рабіць некаторыя жанчыны і ўсе кошкі. Яе дыханне зусім не было чуваць з-за мернага шэпту радыёпрыёмніка.

Тоні Рэзэк уціснуўся глыбей у крэсла, абхапіў пальцамі ласіны зуб і заплюшчыў вочы.

Пераклад з англійскай мовы.




# «КАЛЯДНЫЯ ЎЗОРЫ» ў Менску

У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адкрылася выстава «Калядныя ўзоры», арганізаваная Саюзам майстроў народнай творчасці рэспублікі. У экспазіцыі — разнастайныя вырабы з саломкі і скуры, разьба і роспіс па дрэве, кераміка і ткацтва. І, зразумела, калядныя маскі, арыгінальныя навагоднія кампазіцыі майстроў фальклярыстыкі і шмат іншага.

Экспазіцыя атрымалася сапраўды калядная — святочная, яскравая, урачыстая.

НА ЗДЫМКУ: на выставе.

Фота Яўгена КАЗЮЛІ,
Белінфарм.



## ДА ЎВАГІ ЗАМЕЖНЫХ ПАДПІСЧЫКАЎ

Вось толькі нядаўна даведаўся, што Сяргей Карнілавіч, што збіраў у замежжы ахвяраванні на газету «Наша слова», адышоў на вечны супачынак. Паведаміце, калі ласка, ці ёсць нехта зараз у ЗША, хто займаецца гэтай справай. Калі так, дык падайце адрас і прозвішча новага збіральніка.

Міхал РАДЗЕЦКІ,
Аўстралія.

Ад рэдакцыі. Усе, хто жадае падпісацца на газету «Наша слова» ў Паўночнай Амерыцы, могуць зрабіць гэта праз спадара Міхася Белямука ў Кліўлендзе. Умовы атрымання газеты даведаецеся ў самога спадара Міхася, бо, на жаль, прамых кантактаў у нас няма.

## Пачутае «У Лявона»

Дзеці ляпілі снежную бабу і наскрозь прамоклі. Прахожы спытаў:

— А вам не холадна?

— Нам не, а вось Петрыку, мабыць.

— А які ж гэта Петрык?

— Ды той, які ў снежную бабу закатаны!

* * *

— Куме! Як гэта з тэлеграфам робіцца: націснуць на адным канцы, а гавораць на другім?

— Гэта, брат, акурат, як з сабакам: пацягні яго ззаду за хвост, а ён спераду забрэша.

— Авохці мне. А я і не скеміў!

* * *

— Усё жыццё змагаюся,— скардзіўся гультай.— Да абеду змагаюся з голадам, а пасля абеду — са сном.

* * *

— Як муж? Ці здароў?

— Здароў, але мае клопат з жыватом.

— Што, мо не можа есці?

— Вось у тым і бяда, што есці можа, але няма чаго.

* * *

Урач, аглядаючы хворага, пытае:

— Гарэлку п'яце?

— А ў вас ёсць?

* * *

— Пойдзем, куме, у царкву!

— Э, ці хто яго! Я не такі набожны, каб так часта хадзіць у царкву. От бацька мой, дай, Божухна, спакой яго душачцы, быў надта набожны! Бывала, калі царква і зачынена, то ён або падкапаецца, або акно выдзера, а ўсё-такі ўлезе.

## ДЗЯКУЕМ!

Рэдакцыя часопіса хрысціянскага сумоўя «Унія» шчыра дзякуе айцу Аляксандру Надсану (Лондан), пану Адаму Палюховічу, прэзідэнту фірмы «Дайнова», Віктару Сіўцову (Менск), Міхалу Кадыку і Сяргею Цімчанку (Баранавічы), Клаўдзіі Анісавай (Свіслач, Менская вобл.) за ахвяраванні ў 1993 годзе на фундацыю «Уніі». Віншуем вас і ўсіх чытачоў са святам Раста Хрыстовага і зычым у новым годзе шчасця, поспеху ў вашай дзейнасці і дабрабыту. Вясёлых Каляд!

*Рэдакцыя часопіса «Унія».*

## *Афарызмы*

*Мілаван Вржына*

**У нас багі застаюцца і тады, калі народ перастае верыць у іх.**

**Наша Сібір мела медытэранскі клімат!**

**Дзе-каго сапсавала вуліца, а дзе-каго — наш новы шлях.**

**Калі б нават знайшлі зерне мудрасці, мы б ім вокны выбівалі!**

Пераклаў з сербскахарвацкай Іван Чарота.

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**14 СТУДЗЕНЯ, ПЯТНІЦА**

10.20. Роднае слова.
10.55. «Калядныя зоркі». Тэлевізійны арт-клуб.
16.40. Для дзяцей. Літарынка. Літара «К». (Калядкі).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Бізнес-рынг. Беларускі ваўчар і закон аб ім.
20.05. «Не абы-што!» Міжнародная праграма.
21.00. Панарама.
23.20. НІКа.

**15 СТУДЗЕНЯ, СУБОТА**

13.05. Рэспубліканскі тэлевізійны фестываль «Усе мы родам з дзяцінства». (Менск і Менская вобласць). 1-я частка.
16.35. Вобраз. Літаратурны тэлечасопіс.
18.05. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».
21.00. Панарама.
23.35. НІКа.

**16 СТУДЗЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ**

12.45. Рэспубліканскі тэлевізійны фестываль «Усе мы родам з дзяцінства». (Менск і Менская вобласць). 2-я частка.
15.40. Шоў-TV «Тры апельсіны».
18.15. Ваўчок-шоў. Забаўляльная праграма.
18.55. Радавод. «Крывыя вечары».
20.00. Панарама.

## Народная лякарня

**У 1994 годзе мы працягваем публікацыю цікавых звестак па выкарыстанні метадаў народнай медыцыны пры лячэнні розных хвароб чалавечага арганізма, якія рэкамендуюцца вядомым амерыканскім урачом і даследчыкам Д. Джарвісам у кнізе «Мёд і іншыя натуральныя прадукты» (1981).**

**На чарзе такія раздзелы: «Карысныя ўласцівасці бурых марскіх водарасцей», «Значэнне ёду», «Рыцына і кукурузны алей», «Карысныя ўласцівасці мёду».**

### КАРЫСНЫЯ ЎЛАСЦІВАСЦІ БУРЫХ МАРСКІХ ВОДАРАСЦЕЙ

Сучасная цывілізацыя мае шмат пераваг, але ёсць і недахопы. Асноўны з іх — дэфіцыт мінеральных рэчываў у прадуктах харчавання, якіх увесь час патрабуе арганізм чалавека. Трэба ведаць, што марская вада ўтрымлівае да 3,5 працэнта неарганічных рэчываў, якія водарасці, што растуць у акіянах, ператвараюць у арганічную форму. Акіян — гэта той гіганцкі рэзервуар, у якім акумулiруюцца незлічоныя багацці хімічных элементаў, што трапляюць сюды розным спосабам: з касмічнай прасторы, з унутранай часткі зямлі, з паверхні зямлі. Яны пераносяцца ветрам, вадзянымі патокамі, леднікамі. На марскім дне выяўлены шматлікія метэарыты з нікелю і жалеза, вулканічныя пароды, абломкі скал — усе яны папаўняюць акіян мінеральнымі рэчывамі. Найбольшую справу робіць вада, якая выпараецца з акіяна ў паветра, пераносіцца ветрам і выпадае ў выглядзе ападкаў на зямлю. Пранікаючы ў глебу на розную глыбіню, у падземныя рэчышчы і калодзежы, яна выносіць з паверхні зямлі ў акіян раствораныя мінеральныя рэчывы. Паколькі працэс паўтараецца, то спусташэнне запасаў зямной паверхні павялічваецца, а мора абагачаецца.

Розныя прыродныя сілы — вецер, мароз, сонечная радыяцыя, змены тэмпературы садзейнічаюць таксама працэсу вымывання і пераносу рэчываў у мора.

Чалавек сам выклікае спусташэнне запасаў зямлі. Ён высякае лясы, агаляючы зямлю, пасля чаго вымыванне цвёрдых рэчываў адбываецца куды хутчэй, чым у першабытную эпоху. Зноў жа чалавек здабывае розныя мінеральныя рэчывы (жалеза, волава, медзь, цынк і г. д.), якія з цягам часу зношваюцца, трапляюць зноў у зямлю і ў выніку вымываюцца ў акіян. Велізарная колькасць рэчываў спальваецца (нафта, вугаль), а пыл і попел з іх зноў жа трапляюць у акіян. У акіяне адбываюцца ўсе магчымыя рэакцыі пад уплывам розных фактараў. Сучасны састаў акіяна — гэта вынік розных рэакцый, якія адбываліся на працягу мільёнаў гадоў.

Флора і фауна мора не толькі адбірала і асімілявала неабходныя для сябе пажыўныя рэчывы, яна таксама назапашвала іх, забяспечваючы чалавека натуральнай ежай. Хімікі ведаюць, што ў акіяне растворы амаль усе важныя хімічныя элементы. Падлічана, што на кубічную мілю (1,852 км) прыпадае прыблізна 200 млн. тон хімічных злучэнняў, у тым ліку золата, срэбра, магній, алюміній, сера і інш. Марскія расліны і жывёлы назапашваюць іх удосталь, трансфармуючы ў арганічныя рэчывы, неабходныя для жыхароў зямлі, што хварэюць ад іх недахопу. Раслінныя формы акіяна разнастайныя і багатыя — ад мікраскапічных да велізарных, такіх, як «дрэвы» буйных бурых водарасцей. Харчуючыся марскімі раслінамі, марскія жывёлы атрымліваюць такую багатую і паўнацэнную ежу, якая садзейнічае значна больш інтэнсіўнаму іх размнажэнню ў параўнанні з відамі, якія насяляюць зямную паверхню.

Чым тлумачыцца такое працвітанне жыцця мора? Чаму людзі, якія харчуюцца марской ежай, практычна ніколі не хварэюць? Прычына ў тым, што такая ежа найбольш поўна задавальняе патрэбы чалавека ў мінеральных элементах, неабходных для падтрымання здароўя.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 56.

МВПА імя Якуба Коласа, Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка», 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.
Індэкс 63865.

Наклад 8900 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 10.1.1994.
у 15 гадзін.